# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 37 (239) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 10 ВЕРАСНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 50 ГР


## ГЭТАМУ БОЛЬШ НЕ БЫЦЬ!



Верасень 1939 год. Першыя бомбы.

## Уладыслаў Бранеўскі

* * *

Я сын той зямлі, што ў няволі, сын вольнай, як птушка, песні,
Аб чым жа, аб чым спяваць мне, як дом мой і тло і руіны?
Бяду майму сэрцу і гора верасня дні прынеслі,
А зброі не маюць рукі, без зброі мая айчына.
Ды я на айчыну вярнуся, хачу загаіць яе раны,
Хачу палымнець над светам сэрца і песні пажарам,
Хачу, каб з руін Варшавы, рос сацыялізм жаданы,
Хачу, каб сігнал Мар'яцкі чырвоным шумеў штандарам.
Гордасць мая, Варшава, слава тваім руінам!
Хачу цалаваць твае раны, кожны каменьчык дольны.
Дай жа руку, Беларусь, мне, дай мне руку, Украіна,
Дайце ваш серп на дарогу, молат ваш дайце вольны.
Вольнымі будуць народы, сіла ў сцятай далоні!
Дні праміпуць, і новы свет закрасуе весні.
Бяззбройнай пішу рукою, не памшчу, хоць дужы сёння
Я, сын той зямлі, што ў няволі, сын вольнай, як птушка, песні

1939 г.

## Першы дзень у новым годзе

Дзень першага верасня — пачатак новага навучальнага года — урачыста адзначылі школьнікі беларускіх школ на Беласточчыне. Многія з іх першы раз пераступілі школьны парог, каб, сеўшы за школьную парту, пільнай навукай адчыніць сабе дзверы ў шырокі свет ведаў.

Школьная дзетвара горача сустрэла дзеячоў Беларускага грамадска - культурнага таварыства, якія прысутнічалі на ўрачыстасцях пачатку новага навучальнага года ў школах Гайнаўскага павета. Школьнікі ўручылі ім букеты кветак.

Урачыста праводзіўся першы дзень новага навучальнага года ў Гайнаўскім беларускім агульнаадукацыйным ліцэі. З прамовай да вучняў выступілі сакратар прапаганды КП ПАРП у Гайнаўцы — Мікалай Самоцік і дырэктар ліцэя — Анастасія Тропак. Пасля прадстаўнік Галоўнага Праўлення БГКТ — Уладзімір Паўлючук уручыў некаторым школьнікам каштоўныя ўзнагароды за найлепшыя месцы ў конкурсе «Дзіцячы малюнак — ілюстрацыя да прачытанай кнігі».

У сувязі з гэтым конкурсам былі таксама ўручаны ўзнагароды некаторым школьнікам пачатковай школы ў Масяве, Гайнаўскага павета.

(вб)



Найлепшым трактарыстам аказаўся Зыгмунт Дэкутоўскі.



Верасень 1939 год. Нямецкія атрады пераходзяць польскую граніцу.

## Свята ўраджаю

Дзень 27 жніўня гэтага года на Беласточчыне быў адзначаны як свята ўраджаю. У нядзелю раніцай у Шэпятова, невялікае мястэчка ў Высока Мазавецкім павеце, накіраваліся дэлегацыі хлебаробаў усіх паветаў Беластоцкага ваяводства. У 10 гадзін плошча, дзе адбываліся дажынкавыя ўрачыстасці, запоўнілася 10-тысячным натоўпам сялян. Нічога дзіўнага. Гэта першыя ваяводскія дажынкі на Беласточчыне.

На ганаровай трыбуне займаюць месцы прадстаўнікі ваяводскіх улад, на чале з сакратаром Ваяводскага Камітэта ПАРП Станіславам Кудлам — гаспадаром дажынак. На трыбуне таксама ганаровы госць дажынак, член Цэнтральнага Камітэта ПАРП, генеральны сакратар Цэнтральнага саюза сельскагаспадарчых гурткоў — Мечыслаў Бадальскі. Аркестр іграе дзяржаўны і сялянскі гімны. І вось у сярэдзіне прыціхшага 10-тысячнага натоўпу раздаецца працяжная традыцыйная песня дажынкавага карагода: «плён нясем, плён...»

На чале карагода стараста дажынак, старшыня перадавога сельгасгуртка ў Ставірэях - Міхалавентах, Высока Мазавецкага павета — Тэафіль Дамброўскі, з круглым буханкам дажынкавага хлеба. Побач яго дзве жанчыны ў народных уборах з аколіц Высока Мазавецка з кошыкамі фруктаў і агародніны. Пасярод карагода дажынкавая, прыгожа прыбраная «перапёлка», вакол якой выконваюць традыцыйны танец маладыя дзяўчаты і хлопцы, апранутыя ў народныя ўборы.

Карагод набліжаецца да трыбуны. Да яго падыходзіць гаспадар дажынак. Ён прымае з рук селяніна хлеб горача дзякуе за працу, якая была пакладзена ў атрыманне багатага ўраджаю. Сёлеташні ўраджай на Беласточчыне быў сапраўды багаты. Хопіць сказаць, што ўраджай чатырох асноўных збожжавых культур сёлета на Беласточчыне склаў у сярэднім каля 15 цэнтнераў з гектара. Такога ўраджаю сельскагаспадарчая вытворчасць Беласточчыны не мела яшчэ ніколі. Тады зусім абгрунтаваны сапраўды радасны настрой, які панаваў

(Працяг на стар. 4)

 

# Берлін — дарога да перагавораў

Амаль ужо месяц прайшло з тае пары, калі ўрад ГДР выдаў распараджэнне адносна пераходу граніцы паміж Усходнім і Заходнім Берлінам. Адбылося ў гэты час многа цікавых фактаў і здарэнняў. Распараджэнне ГДР спачатку было прынята правадырамі ФРГ як замах на правы жыхароў Заходняга Берліна. Адэнаўэр і яго контркандыдат на пасаду канцлера ад імя СПД, бургамістр заходнеберлінскі, Вілі Бранд, на другі дзень пасля паведамлення ўрада ГДР патрабавалі ад сваіх заходніх саюзнікаў вострых «палітычных дзеянняў». Аднак жа Вялікабрытанія, а таксама Злучаныя Штаты не спяшаліся карыстацца парадамі бонскіх палітыкаў. Сярод саюзнікаў Заходняй Германіі ўсё больш яўна выступаў тэзіс, што «за Берлін ніхто не захоча змагацца і паміраць».

Бонскія правадыры маглі б застацца адзінокімі, калі б у далейшым стаялі на сваіх ваяўнічых пазіцыях. І ўжо тут, у наступныя дні, Адэнаўэр у час шматлікіх перадвыбарчых выступленняхператварыўся ў палкага прыхільніка перагавораў. Уражанне на Захадзе засталося аднак непрыемнае.

Крыніца пераўтварэння заключаецца ў станоўчым пункце погляду і абаронных мерапрыемствах сацыялістычных краін, а перад усім Савецкага Саюза.

Заходні Берлін больш не можа быць цэнтрам палітычнага шантажу і рэваншысцка-рэвізіяністскіх пагроз. Ён павінен быць вольным горадам, як гэта прадбачвае савецкі праект мірнага дагавору з германскімі краінамі.

Гісторыя апошніх некалькіх год паказвае, што прымірыцельныя, спакойныя і прыязныя намаганні Савецкага Саюза ацэньваліся на Захадзе як доказ слабасці сацыялістычных краін.

Гэтыя намаганні хацелі выкарыстаць для далейшага ўмацавання заходнегерманскіх рэваншысцкіх кругоў, а ўсялякія мірныя прапановы ўтапіць у моры бясконцых дыскусій. Аказалася, што на гэтую злую волю імперыялістычных краін найлепшым і адзіным лячэбным спосабам з'яўляецца рашучасць.

Сярод шматлікіх яшчэ антысавецкіх, і антыГДР выступленняў на Захадзе пракладвае сабе дарогу перакананне, што мерапрыемствы ГДР і СССР «могуць палепшыць шанцы мірнага рашэння берлінскага крызісу». Так пісала Нью-Йорк гэральд трыбун, а паддакваў ёй сур'ёзны, лонданскі «Эканаміст».

Сёння ўжо на Захадзе ўсім зразумела, што справа Берліна і Германіі павінна прывесці да перагавораў. Дзяржаўны сакратар ЗША — Раск заявіў, што перагаворы з СССР на тэму Берліна адбудуцца яшчэ ў гэтым годзе.

Гэта вельмі прыемна. Але справа ў тым, што ўсялякія перагаворы маюць сэнс тады толькі, калі вядуць да дадатных рашэнняў. Калі сёння гаворыцца аб перагаворах, трэба дадаць, што мы хочам мець такія перагаворы, якія пасадзейнічаюць для ўмацавання міру ў Еўропе, а не толькі дадуць пачатак доўгім спрэчкам. З мінуўшчыны мы павінны рабіць правільныя вывады.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

ВАСІЛЬ БЕЛАКАЗОВІЧ

# Беластоцкія карэспандэнты ЛЬВА ТАЛСТОГА

Ужо пры жыцці Леў Талстой карыстаўся вялікай папулярнасцю ў розных краінах і сярод разнастайных слаёў насельніцтва. Слава яго асабліва ўзрастае ў канцы XIX і пачатку XX ст. Да Талстога ў Ясную Паляну прыходзілі пісьмы на вельмі многіх мовах з усяго свету. Пісалі да яго самыя розныя асобы — ад сусветна вядомых літаратараў, пісьменнікаў, паэтаў, крытыкаў, вучоных, дзеячоў мастацтва, выдатных удзельнікаў грамадскага і палітычнага руху да самых простых сялян і рабочых. У Дзяржаўным Музеі Л. Н. Талстога ў Маскве (Аддзел рукапісаў) побач з прыгожымі лісткамі, упрыгожанымі вензелямі, захоўваюцца таксама кускі шэрай, тоўстай паперы з непісьменнымі крымзолямі звычайных людзей працы. Да бясконцасці разнастайны змест пісьмаў. Побач з мудрагелістымі пытаннямі аб вытлумачэнні тых або іншых месц евангелля — простыя натуральныя словы аб людскім горы, аб пакутлівых перажываннях людзей, зняволеных у турму; побач з разважаннямі аб сусветных праблемах просьбы аб матэрыяльнай дапамозе; побач з шырокімі роздумамі на тэмы літаратуры, філасофіі, мастацтва, палітыкі зварот за парадай у якой-небудзь цяжкай асабістай справе. Усе пісьмы, якія атрымоўваў, пісьменнік чытаў сам. Аднак, зразумела, адказаць мог Талстой толькі на частку пісьмаў, самых важных з яго пункту погляду.

Пісалі да Талстога і жыхары Беласточчыны, г. з. заходняй часткі тагачаснай Гродзенскай губерні, а таксама тагачасных Ломжынскай і Сувальскай губ. Аўтар гэтага артыкула, вывучаючы пытанне ўспрыймання Талстога польскімі літаратурна-грамадскімі думкамі і наогул польскімі чытачамі, звярнуў таксама ўвагу на архіўны матэрыял, які знаходзіцца ў Дзяржаўным Музеі Л. Н. Талстога ў Маскве і ў Яснай Паляне. Даследуючы гэты матэрыял удалося выдзяліць каля 30 пісьмаў да Талстога ад карэспандэнтаў, пражываючых у той час на той тэрыторыі, якая зараз уваходзіць у склад Беластоцкага ваяводства. Зразумела, пагэтаму ўмоўна наш артыкул мы называем «Беластоцкія карэспандэнты Л. Талстога», што адпавядае сучаснаму (але не гістарычнаму!) адміністрацыйнаму дзяленню. Гэта былі пісьмы ад палякаў, беларусаў, яўрэяў, рускіх, літоўцаў. Такім чынам у пісьмах да Талстога адлюстроўвалась нацыянальная разнашэрснасць гэтай тэрыторыі. Былі пісьмы ад сялян, настаўнікаў, жанчын. Так, напрыклад, настаўнік рэальнага вучылішча ў Беластоку В. Глебоўскі ў сваім пісьме ад 19 сакавіка 1903 года між іншым пісаў Талстому:

«Ведаючы, з якою ўвагаю і цікаўнасцю Вы адносіліся і адносіцеся да справы выхавання і навучання дзяцей, я бяру смеласць прадставіць Вам пры гэтым экземпляр толькі што вышаўшай у свет сваёй новай друкаванай працы пад загалоўкам: «Старажытныя педагагічныя пісьменнікі ў біяграфіях і вобразах», мэта якой — папоўніць хібы ў нашай педагагічнай літаратуры, якія знаходзяцца па прычыне адсутнасці ў нас зборніка педагагічных поглядаў класічнай старажытнасці, выказаных самымі старажытнымі педагогамі або педагагічнымі пісьменнікамі, і даць нашым настаўнікам і выхавацелям магчымасць карыстацца тымі ўрокамі, якія падала нам класічная старажытнасць.»

Сапраўды, кніжка В. А. Глебоўскага «Старажытныя педагагічныя пісьменнікі ў біяграфіях і вобразах» (Санкт-Пецербург, друкарня П. П. Сойкіна, 1903, 144 стар.) была паслана з Беластока ў Ясную Паляну, дзе і ў сучасны момант знаходзіцца ў асабістай бібліятэцы вялікага пісьменніка. На адвароце вокладкі маецца наступны надпіс чарнілам: **«Вялікаму пісьменніку зямлі рускай, гр. Льву Нікалаевічу Талстому скромны дар ад складальніка. Г. Беласток 18 сакавіка 1903 г.».**

Пачынаючыя пісьменнікі і паэты Беласточчыны часта звярталіся да Талстога за парадамі, прасілі даць ацэнку іх твораў. С. Прэсс з Беластока прасіў Талстога даць водзыў на прыкладзены твор адрасата «Лёс або тэлеграфная памылка, маналог у адной дзеі». Сустракаліся таксама і кур'ёзныя пісьмы ад беластоцкіх графаманаў і бяздарных «кандыдатаў» у пісьменнікі. П. А. Бліноў з Беластока, пасылаючы свае пісьмы, пісаў Талстому: **«Я аб'яўляю вам, што я адораны талентам.»** Асабісты сакратар Талстога па яго даручэнню напісаў Блінову наступны зусім шчыры адказ: **«Леў Нікалаевіч, прачытаўшы вашыя зусім дрэнныя вершы, прыйшоў да вываду, што ў вас няма ніякага паэтычнага таленту, і таму раіць не займацца гэтай пустой справай».** Другі «кандыдат» у пісьменнікі настаўнік царкоўна-прыходскай школы ў вёсцы Навасёлкі, былой Гродзенскай губерні А. І. Сяргеюк у пісьме ад 17 снежня 1907 года, пачуўшы ў сабе «дар творчасці», пісаў Талстому аб усялякіх «псіхалагічных з'яўленнях», спадарожных яго спробам тварыць, і пытаў, ці здольны ён «узяцца за гэтае вялікае мастацтва». На сваё пісьмо А. Сяргеюк атрымаў наступны адказ: **«Рада ў тым, каб не займацца пісьменніцтвам, а, галоўнае, самым сабою».** На водзыў Талстому прыслаў свае вершы падпаручнік Яўфімі Хімула. У пісьме з Ломжы ад 25 кастрычніка 1907 г. Хімула прасіў «у імя праўды» паведаміць, ці можа ён «разлічваць» на свае сілы для працы ў галіне літаратуры. Талстой, звяртаючы рукапісы, прасіў свайго сябра і паслядоўніка Душана Макавіцкага напісаць Хімуле наступны адказ: **«Чытаў вашыя вершы і не раю вам займацца гэтым, паколькі няма ў вас да гэтага таленту. Вельмі шкадую, што павінен сказаць вам гэтую праўду».**

**(Працяг на стар. 4,**




**Карнікі падыходзяць да лагера партызан. Мінай закопвае партызанскія дакументы і дае бой, але неўзабаве, заўважыўшы, што можна трапіць у акружэнне, загадвае адступаць.**

Лясы навокал Чысціка глухія. Помняць гэты лес простыя палашы літоўскіх воінаў, крывыя шаблі яснавяльможных паноў. Праходзіў тут са сваёй дружынай Іоан Васільевіч, граза і смерць лівонскага рыцарства. Грэліся ля кастра налівайкаўскія казакі. Барадатыя мужыкі з тапарамі і віламі сустракалі адступаючае напалеонскае воінства...

А цяпер у лясных нетрах зноў запаліліся кастры.

88

Ля невялікага кастра сабраліся камандзіры ўсіх трох атрадаў. Былі тут Іванаў, Волкаў, Нароенка.

З цемры з бярэмям ламачча вышаў Кашалёў, кінуў галіны ў агонь.

— Ну, а далей? — аднавіў спыненую заяўленнем Кашалёва гутарку Іванаў.

— А потым нам давялося адыйсці, — павярнуўшыся да яго, адазваўся Шмыраў. — Атрад сабраўся на ўскраіне Чысціка. Не было толькі байцоў з першай і трэцяй застаў.

— Ты паслаў за імі?

— Вядома! Да поўначы чакаў разведку, але яна не вярталася. Было холадна, усе змучыліся, прагаладаліся, а прадуктаў — ніўкога. Тады і павёў я хлопцаў у лагер Шкрэды. Прыходзім, а там ні душы. У зямлянках яшчэ цяпло, адчуваецца, што людзі пакінулі іх толькі што. Ну, выставілі варту і размясціліся на начлег.

— А разведчыкі?

— З'явіліся на світанні. Прывялі з сабою байцоў з застаў і паведамілі, што карнікі ўварваліся ў наш лагер, разбурылі зямлянкі, забралі рэшткі прадуктаў, а галоўнае — выкрылі ўсе штабныя дакументы...

89

Іванаў выцягнуў з-пад сябе палку, з сілай кінуў у касцёр:

— Так - такі ўсе?

— Да адзінага! І спіскі асабовага складу, і дзённік баявых дзеянняў... Ох, і пашалелі ж яны, калі даведаліся, што па спісках у нас у атрадзе ўсяго сто дзесяць байцоў!

— А яны што думалі? Тысячу?

— Больш, браток! Іхняя газета пісала, што нас у раёне да трох тысяч... Таму і сілы такія супраць нас накіравалі — армія! — Мінай усміхнуўся. — Э, дык чорт з імі, хай хлусяць. Адпачылі мы ноч, а раніцай у лагер прышоў парторг чацвёртага ўзвода Дукарэвіч і з ім кухар Шкрэдаўскі, Кашалёў, хацеў забраць прадукты для сваёй групы.

— Дзе ж сам Шкрэда быў у той час?

— У чатырох кіламетрах, пад Платкамі. Дукарэвіч расказаў, што яны капаюць там новыя зямлянкі. Ну, і мы вырашылі часова затрымацца ў іх лагеры. Паслалі некалькі асоб пад Галевічы, высвятліць абставіны і прыгнаць стада, калі яно ўцалела, але дарма пасылалі — карнікі папярэдзілі нас.

90

— Ці гэта праўда, што яны засады ў вёсках пакінулі? — уставіў пытанне Волкаў.

— Праўда... Міхайлаў учора быў у Казакаве. Даведаўся, што засады сядзяць, і ў Пунішчах, і ў Храпаках. Скрытна сядзяць, заразы, днём хаваюцца на вышках, ноччу спускаюцца. Сям'ю маю як прынаду трымаюць: а вось прыду?

Мінай змоўк. Чутна было, як трашчыць дрэва ў кастры.

— Ну, і які ж цяпер у цябе план? — асцярожна спытаў Іванаў.

— У мяне асабіста?

— У цябе, у нас... Ці ж гэта не тое самае?

— Не! — Мінай уздыхнуў. — Што датычыць агульнага плана, ён можа быць толькі адзін. Блакада зацягваецца. Гітлераўцы ў лепшых умовах, чым мы: і жывуць у вёсках, і спяць у цяпле, і ядзяць удосталь. Высачылі адзін наш лагер, чаму б не высачыць другі? А

**(Працяг на стар. 7)**

91



 

 

# ТЭРЭСА З МАСКОЎЦАЎ



Калі б нават хто забыў прозвішча Тэрэсы Паха і згубіў яе адрас, дык гэта не бяда. Хопіць толькі запытацца ў любога жыхара Грыгораўцаў, Маліннікаў ці іншай вёскі ў наваколлі Маскоўцаў, дзе жыве Тэрэса — кожны скажа вам яе дакладны адрас. І не толькі таму, што імя «Тэрэса» тут амаль экзатычнае сярод Люб і Вер, але перш за ўсё таму, што ведаюць яе, як добрага кіраўніка грамадскай бібліятэкі ў Маскоўцах і актыўнага члена Саюза сялянскай моладзі.

Тэрэсы зараз 18 год. Кіраўніком бібліятэкі яна з'яўляецца ад снежня 1959 года. Праз увесь час сваёй працы Т. Паха паклала шмат намаганняў, каб бібліятэчны фонд усцяж папаўняўся кніжнымі навінкамі, каб добрая, вартасная кніга трапляла да чытача.

Зараз у бібліятэцы 2.600 тамоў кніг. Частку складаюць творы беларускіх і рускіх аўтараў. Агульны лік чытачоў — 149 асоб. Сярод іх ёсць некалькі выдатнікаў, г. зн. тых, якія многа чытаюць і падбіраюць сабе кнігі з веданнем. Тэрэса прыгадала мне некалькі прозвішчаў. Вось яны: Марыся Кавальчук, Анна Саўчук і Міхась Мельнік з Маскоўцаў, Аляксей Васілеўскі з Вулькі Выганоўскай; частым наведвальнікам бібліятэкі з'яўляецца таксама чатырнаццацігадовая Анна Цыбулін. Яна, як адзначае Тэрэса, проста праглынае кнігі. Побач з мастацкай літаратурай у бібліятэцы маецца сельскагаспадарчая літаратура. Члены сельгасгурткоў, якія знаходзяцца ў ГРН Грыгораўцы, пастаянна знаёмяцца з новымі набыткамі гэтых выданняў.

У грамадскай бібліятэцы ў Маскоўцах багаты выбар штодзённага і перыядычнага друку. Цешылася сэрца, калі я ўбачыў акуратна зробленыя падшыўкі «Нівы» і «Зоркі» за мінулыя гады. На сценах пакойчыка вісяць партрэты беларускіх пісьменнікаў, а ў самым пачэсным месцы красуецца лозунг: «Беларуская кніжка — твой прыяцель».

Тэрэса Паха прымала ўжо ўдзел у двух семінарах у Белавежы, сарганізаваных спецыяльна для бібліятэкараў Ваяводскай бібліятэкай у Беластоку. У час кожнага такога семінара яна наладжвала знаёмствы з сяброўкамі і сябрамі па прафесіі і дагэтуль з многімі перапісваецца, абменьваючыся вопытам. Тэрэса паказала мне шмат лістаў і паштовых картак ад сваіх шматлікіх знаёмых. Яна перапісваецца таксама з рэдакцыяй «Пшыспасабення рольнічага» і з «Газетай беластоцкай».

У бібліятэцы, хаця надта ж цесна, аднак усюды прыкладны парадак, чысціня і наогул вельмі ўтульна. Вокны ўпрыгожаны фіранкамі і кветкамі, а на адным з іх красуецца чырвоны флажок калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі пры Саюзе сялянскай моладзі. Гэты флажок атрымала група мясцовай моладзі як узнагароду за выдатныя вынікі ў вырошчванні конскага зуба. І ўсё здаецца было б добра, каб не адна справа, якая не перастае турбаваць Тэрэсу. У бібліятэцы няма радыёкропкі. ГРН у Грыгораўцах абяцала абсталяваць яе, аднак пакуль што ўсё і канчаецца толькі абяцаннямі.

Тэрэса Паха не толькі з адданасцю працуе ў бібліятэцы. Яна з'яўляецца дзейсным членам ЗМВ і ўваходзіць у склад павятовага праўлення гэтай арганізацыі ў Бельску Падляшскім. У гэтым годзе яна, як член калектыву сельскагаспадарчай падрыхтоўкі пры мясцовым гуртку ЗМВ, спаборнічае са сваімі сяброўкамі ў гадоўлі куранят — «Сусексаў». У Тэрэсы зараз ужо 80 штук птушак; 50 штук яна атрымала як узнагароду за добрыя вынікі ў гэтым карысным мерапрыемстве ад Ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку.

У сакавіку г. г. Тэрэса Паха прымала ўдзел у другой краёвай нарадзе дзяўчат у Варшаве. У выніку сельскагаспадарчай алімпіяды яна заняла трэцяе месца і была ўзнагароджана сціральнай машынай. Гэты поспех Тэрэсы адзначыў часопіс «Пшыспасабене рольнічэ» і «Газета беластоцкая».

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

**На здымку: Тэрэса Паха.**



**Калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі І-ай ступені ў Маскоўцах мае выдатныя вынікі ў вырошчванні цукровых буракоў. Ён збірае прыблізна 450 квінталяў буракоў з 1 га.**

# ШКОЛЬНЫЯ ТУРБОТЫ МАХНАТАГА

Для Клаўдзія Карпюка з Махнатага (Гайнаўскі пав.) школа з'яўляецца амаль другім родным домам. Надта ж зжыўся ён са школьным асяроддзем. Ад 1939 года працуе настаўнікам, а ад 1944 года ўзначальвае мясцовую школу. За сваю самаадданую працу К. Карпюка неаднаразова ўзнагароджваў Кураторыум грашовымі прэміямі, а таксама атрымаў ён Медаль Дзесяцігоддзя. Цяжка яго ўявіць бяздзейным. Заўсёды мітусіцца, наладжвае нейкія справы, турбуецца.

Апошнія дні жніўня, як звычайна бывае ў школьным жыцці, аказаліся для К. Карпюка вельмі напружанымі. Школьнае памяшканне патрабавала грунтоўнага рамонту, каб можна было 1 верасня сустрэць вучняў чысцінёй і парадкам. Такая салідная касметыка была тым больш неабходная, што ў махнатаўскай школе асабліва мнагалюдна, і таму будынак хутчэй знішчаецца. Тут толькі тры залы, а вучняў у мінулым школьным годзе было 160. Зараз школьная сям'я павялічыцца на 10 асоб. І таму нічога дзіўнага, што сярод многіх спраў, якія закрануліся сёлета ў час перадвыбарчай кампаніі, вылучалася справа пабудовы новай школы.

Побач з пачатковай школай у Махнатым існуе школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Заняткі, зразумела, праводзяцца ў тым жа самым будынку, што яшчэ больш ускладняе працу. У мінулым годзе ў школу хадзілі 22 навучэнцы. Сярод іх было некалькі выдатнікаў. Вось яны: Марыя Сільвесюк, Аляксей Баравік з Махнатага і Валянціна Мароз са Старога Беразова. Мяркуюць, што ў гэтым навучальным годзе мясцовую школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі наведваць будзе 20 асоб.

# З ЖЫЦЦЯ БІБЛІЯТЭКІ Ў ЗУБКАХ

Грамадская бібліятэка ў Зубках (Беластоцкі пав.) мае 7 бібліятэчных пунктаў, у якіх 2.000 тамоў кніг. Кіраўніком яе з'яўляецца Галіна Усціновіч. Дзякуючы яе ініцыятыве ў памяшканні бібліятэкі наладжваюцца сеансы дзіцячых казак пры помачы праектара. Тут адбываюцца таксама лекцыі на агратэхнічныя і бытавыя тэмы.

Бібліятэка ў Зубках мае 60 чытачоў. Сярод іх ёсць выдатнікі чытальнасці: Ірына Дробат і Сяргей Усціновіч з Зубкоў, а таксама Генрык Эйсмант з Вераб'ёў.

**Кома**

тальскі з Саколкі ў пісьме ад 17 студзеня 1906 г. просіць Талстога дапамогі, каб мець магчымасць вучыць сына ў Гродзенскай гімназіі. Настаўнік вёскі Вялікія Фальваркі, непадалёку Заблудава, І. Дзянскі ў пісьме ад 19/IV—1905 г. звяртаецца з просьбай да пісьменніка дапамагчы пагарэльцу селяніну А. Станкевічу. Просіць Талстога «дапамогі» жонка настаўніка з вёскі Пянькі, тагачаснага Беластоцкага павета, Еўфрасінія Пераход. У сваім пісьме ад 3 снежня 1903 г. яна піша: «У нашай губерні народныя настаўнікі атрымоўваюць плату вельмі агранічаную так, што сямейнаму чалавеку, жывучы ў вёсцы, прыходзіцца жыць надта бедна, але падумаць аб тым, каб аддзяліць ад свайго мізэрнага ўтрымання на адукацыю сваіх дзяцей станоўча немагчыма...»

Патомны дваранін Зэнан Дабравольскі з Ломжы ў пісьме ад 19/I—1910 г. просіць дапамагчы ўладзіцца на добрую працу, таму што ў жыцці яму не шанцуе і справы ў яго ідуць дрэнна. На такія пісьмы Талстой амаль што ніколі не адказваў.

Свае перажыванні і цяжкасці апісваў у пісьмах да Талстога літовец Іосіф Альбін Гербачэўскі, якога, за ўтварэнне ў сваёй кватэры бібліятэкі, дзе, між іншым, знаходзілася кніга антыўрадавага зместу, выключылі «з воўчым білетам» з Марыямпольскай гімназіі (Сувальская губернія). У пісьме ад 12 снежня 1896 г. Гербачэўскі між іншым пісаў: **«Будучы яшчэ вучнем, захапляўся Вашымі раманамі, Вашымі апавяданнямі з жыцця простых людзей, напісаных з такім веданнем жыцця сялян, што здаецца, як-быццам бы вуснамі Вашымі гаворыць люд — гэтая падстава і галоўная сіла дзяржавы. Зараз захапляюся Вашымі брашурамі, якія друкуюцца за граніцаю...»**

Шматлікія пісьмы змяшчалі просьбу аказаць душэўную дапамогу, маральную падтрымку, адказаць у чым сэнс і мэта чалавечага жыцця. Закраналіся ў іх розныя этычныя і рэлігійныя праблемы. Яўгення Брадоўская з Сувалк у пісьме ад 8/IV — 1893 г. да Талстога просіць душэўнай дапамогі: **«Дайце мне лякарства для ўзмацнення маёй душы.»** І. С. Л. Зенюс з Марыямпольскага павета, Сувальскай губерні, у пісьме ад 9 красавіка 1896 г., напісаным на ламанай руска - польскай мове. выказвае свае думкі аб каталіцкай і праваслаўнай рэлігіях.

Беластоцкі яўрэй О. Іоффэ паведамляе Талстому ў пісьме ад 13/IV—1899 г., што ён імкнецца вырвацца са свайго асяроддзя і знайсці месца ў натуральным жыцці, сярод прыроды. Просіць парады і ўказанняў. Гэтае доўгае пісьмо змяшчае гарачыя радкі аб яўрэйскай нервовасці і выраджэнню. Нейкі Сільвановіч з Беластока запытаў пісьменніка: дзе можна атрымаць псалмы на рускай мове. Адказ быў атрыманы. Паклоннік Талстога з горада Шчучына, падпісваючыся ініцыяламі Ш. А., у пісьме ад 21 кастрычніка 1904 г. пытаў, якая ідэя сацыялізма і чым яна заканчваецца. Іван Кур'яновіч з гор. Нарэва (Бельскага павета) у пісьме ад 9/IX — 1908 г. закранаў рэлігійныя і маральныя пытанні, хвалюючыя яго душу. Тыя ж самыя пытанні закранае Аляксандр Грэчулевіч у сваім пісьме з Ломжы і просіць кнігу Талстога «Злучэнне і пераклад 4-ох Евангелляў», якую і паслаў яму пісьменнік. Ураджэнец вёскі Дзяменічы, Гродзенская губерня, студэнт ляснога вучылішча ў Варшаве Савва Кацэвіч у пісьме ад 2/IX — 1909 г. ставіў пытанні аб волі і розуме, а таксама прасіў пісьменніка адказаць, чаму ён не любіць духавенства і ці можа быць чалавек без веры. Талстой параіў Кацэвічу, каб той прачытаў кнігу «На кожны дзень», дзе знойдзе адказы на хвалюючыя яго пытанні. Акрамя адказу была таксама выслана кніга.

Талстога хвалявалі пісьмы тых людзей, якія цікавіліся яго рэлігійна-маральным вучэннем. У адказах і кнігах, якія высылаў сваім карэспандэнтам, Талстой імкнуўся прапаведваць усеагульную любоў, непраціўленне злу насіллем і ўсёдараванне, шчыра бачачы ў іх «духоўнае лякарства» ад усіх бед. У той жа час Талстой рашуча выступаў супраць арганізаваных форм барацьбы і нават супраць арганізаваных форм прапаганды свайго вучэння. Калі нейкая Берта з Беластока ў пісьме ад 3/XII—1908 г., даўшая для адказу адрас І. Сялевіча, прасіла дазволу прыехаць у Ясную Паляну, каб параіцца аб іх «малой арганізацыі», Талстой рашуча адказаў.

Мы прывялі некалькі канкрэтных фактаў, якія сведчаць аб тым, што Талстой быў вядомым і шанаваным у прошлым, яшчэ пры жыцці, шматлікімі беластоцкімі чытачамі. І ў цяперашні час аўтар «Вайны і міру», «Анны Карэніны», «Адраджэння» знаходзіць на Беласточчыне шматлікіх паклоннікаў свайго таленту. Талстой стварыў творы, якія ўвайшлі ў залаты фонд сусветнай літаратуры, якія заўсёды будуць цаніць і чытаць, як праўдзівыя, своеасаблівыя, недасяжныя ўзоры чароўнага, надзвычайнага творчага генія пісьменніка.

**ВАСІЛЬ БЕЛАКАЗОВІЧ**



 

